


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

ТУ ПЛЮС

29 сакавіка 2002 года
№ 13 (362)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна



Усім хрысціянам, да якіх прыходзіць у гэтыя дні Вялікдзень, вясёлых святаў зычыць «Рэгіянальная газета»!

## Апаратура для касцёла

**СМАРГОНЬ**. Напярэдадні каталіцкага Вялікадня ксёндз з Польшчы **Станіслаў Каранкевіч** прыслаў у смаргонскі касцёл святога Міхаіла Архангела гукаўзмацняльную апаратуру. Восенню С. Каранкевіч прыязджаў у касцёл і праводзіў службу. Тут яму спадабалася. Падарунак каштуе каля 2 тысяч долараў і складаецца з 12 гукаўзмацняльных калонак. Ксёндз дашле яшчэ і фарбу, каб можна было пафарбаваць касцёл звонку і ўсярэдзіне.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Пасвяцілі ў пенсіянеры

**МЯДЗЕЛ**. У аўторак у раённай бібліятэцы сабраліся жанчыны з розных куткоў раёна, якія нядаўна выйшлі на пенсію. Урачыста ім уручалі пенсійныя пасведчанні, кнігу «Памяць». Добрыя словы гучалі для жанчын ад ад старшыняў райвыканкама **Станіслава Чарнушэвіча** і райсавета дэпутатаў **Валянціна Бабровіча**. Быў і салодкі стол, пакаштавалі ўсе і торт з надпісам: «Ура! Пенсія!». Такое свята аддзел сацыяльнай абароны і жансавет маркуюць ладзіць пастаянна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чацвертая з дзевяці

**АСТРАВЕЦ**. Дзевяцікласніца СШ №1 райцэнтра **Вольга Карабец** заняла чацвертае месца на абласной алімпіядзе па польскай мове і літаратуры. Падобны вынік можна лічыць поспехам, бо першыя месцы занялі вучні з польскіх школ Гродна і Ваўкавыска, выкладанне ўсіх прадметаў у якіх вядзецца толькі на польскай мове.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Усё адно дагналі

**МАЛАДЗЕЧНА**. 22 сакавіка на аўтадарозе Мінск-Нарач ля Краснага работнікі ДАІ вымушаныя былі страляць, каб затрымаць нецвярозага вадзіцеля. Машына з'ехала ва Ушу і заглухла. Вадзіцель кінуўся на міліцыянера, каб забраць зброю. Апошні стрэліў парушальніку ў нагу.
Парушальнік пазбаўлены вадзіцельскіх правоў на 5 год і павінен заплаціць штраф. Дзеянні міліцыянера міжрайпракуратура прызнала правамернымі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Абласны кірмаш

**МАЛАДЗЕЧНА**. 30 сакавіка ў горадзе пройдзе абласны кірмаш. Будуць тавары народнага спажывання і сельскагаспадарчая прадукцыя. Чакаецца прыезд прадстаўнікоў гандлёвых прадпрыемстваў з Мядзельшчыны, Вілейшчыны, Валожыншчыны і Міншчыны.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## На «летні» час

**У адпаведнасці з парадкам злічэння часу, вызначаным урадам Рэспублікі Беларусь, з 31 сакавіка па 27 кастрычніка 2002 года ў рэспубліцы ўводзіцца "летні" час. Стрэлкі гадзіннікаў у 2 гадзіны 31 сакавіка 2002 года пераводзяцца на 1 гадзіну наперад.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 30 сакавіка

**Мінск**

-1°C (уначы)
12°C (удзень)

**Вільня**

-1°C (уначы)
11°C (удзень)

Нядзеля, 31 сакавіка

**Мінск**

-1°C (уначы)
11°C (удзень)

**Вільня**

-1°C (уначы)
10°C (удзень)

# За арганізацыю – «нездавальняюча»

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 сакавіка ў СШ №6 прайшоў гарадскі конкурс школьнай мастацкай самадзейнасці. Але без прыгод не абышлося, падвяла апаратура. Канцэрт скончыўся на дзве з паловай гадзіны пазней, чым было запланавана. Многія з удзельнікаў і проста прысутных лічаць конкурс па яго арганізацыі правальным.**

Па словах харэографа СШ №1 **Віктара Барановіча** ў сёлетнім конкурсе вельмі шмат недапрацовак:

— Такой арганізацыі за тры гады, на працягу якіх мы ўдзельнічаем, не было. Апаратуру не падрыхтавалі, не было належнага абмеркавання пераможцаў. Так, як і стымулу для дзяцей і дарослых. Узнагародзіць трэба было ўсіх дзяцей хаця б граматамі, калі немагчыма заахвоціць каштоўнымі падарункамі. А пару дзесяткаў грамат для горада недастаткова.

Педагогі таксама незадаволеныя тым, што конкурс праводзіўся амаль адразу пасля эпідэміі грыпу. Дзеці не маглі падрыхтавацца да выступленняў па-сапраўдным. Калі памылкі гэтага конкурсу будуць улічаны, то ў наступным годзе такога не адбудзецца.


Фота Юрыя КАРПЕНКІ.
**Гарадскі прагляд мастацкай самадзейнасці. Вучні падрыхтоўчага класа СШ №5 Аня Тоўкач і Саша Гулевіч паказваюць сцэнку "Мас і Сас".**

Старшыня журы, кіраўнік гарадской секцыі настаўнікаў музыкі **Дзіна Шапавалава** бачыць бяду ў тым, што няма фінансавай падтрымкі развіцця дзяцей і беларускай культуры. Некаторыя дзеці ўпершыню трымалі ў руках мікрафон. Абласны аддзел адукацыі позна праінфармаваў гарадскі аддзел адукацыі аб тэрміне правядзення і жанравым напаўненні прагляду, таму не засталося часу памяняць Палажэнне аб гарадскім конкурсе.

Між тым дзеці вельмі любяць выступаць. Яны – і пра гэта гаварылі члены журы – павінны развівацца і паказваць сябе.

**Ірына РАБУШКА.**

# Стоп-мэны – памочнікі пешаходаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы дажджліва-снежны чацвер не абяцаў нічога цікавага, пакуль я не заўважыла мітусню каля перахода, што паблізу магазіна "Космас".**

Здзіўленыя вадзіцелі і разгубленыя пешаходы глядзелі на школьнікаў, якія рэгулявалі аўтамабільны рух. Яны былі апранутыя ў яркія камізэлькі з надпісам: "Увага, дзеці!". У руках яны трымалі знакі "Stop". Як толькі людзі падыходзілі да дарогі, юныя інспектары паказвалі свой знак, і машыны спыняліся. За гэтай дзеяй сачылі сапраўдныя інспектары ДАІ.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.
**Маладзечна. Пешаходны пераход ля Цэнтральнай плошчы. Са знакам «Stop» у руцэ вучань СШ №6 Віталь Апаленіс.**

Пытаюся ў хлопцаў:
— Што вы тут робіце?
— Вось прыйшла класны кіраўнік, сказала, што ДАІ прапануе пабыць "стоп-мэнамі". Мы і згадзіліся. А што яшчэ рабіць? Дадому не хочацца, а тут весела і цікава, - адказалі вучні СШ №8 **Дзіма Далінкевіч** і **Сяргей Гамолка**.

Інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ і арганізатар "стоп-мэнії" **Уладзімір Лукашык** падзякаваў вучням СШ №8 і накіраваўся на пераход каля калгаснага рынку. Там яго чакалі вучні СШ №6 разам з кіраўніком **Уладзімір Цівуновічам**. Дзве дзяўчыны і хлопец адразу зразумелі, што трэба рабіць, і высока трымалі знак, пакуль не пераходзіў апошні пешаход.

Вось некаторыя меркаванні ПЕШАХОДАЎ

**Іван Лось**, пенсіянер:
— Калі на гэтым пераходзе (дзе "Космас" – аўт.) нікога няма, брытагаловыя прайсці не даюць. Яны ніколі не спыняюцца.

**Людміла Кірыенка**, настаўніца:
— Дзякуй дзецям! Вельмі добрая і патрэбная акцыя. Калі такое будзе праводзіцца падчас канікулаў, тады будзе чым зацікавіць вучняў. Мабыць, і няшчасных выпадкаў стане менш. Сёння холадна, але ж іх зацікаўленасці нічым не перашкодзіш.

**Віктар Морскі**, навучэнец палітэхнікума:
— Цікава, але ж трэба стаць кожны дзень, каб было менш дарожна-транспартных здарэнняў. Я, напэўна, сам бы не стаў.

ВАДЗІЦЕЛЯЎ

**Рыгор Салановіч**, з Бабруйска:
— Безумоўна, такое кіраванне патрэбнае. Напрыклад, у нас "стоп-мэнаў" няма. Затое на кожным пераходзе стаяць па 2 інспектары.

**Андрэй Дрывень**, пажарны:
— Патрэбна ці не? Не ведаю. Я лічу, што вадзіцелі і без гэтага прапускаюць пешаходаў.

**Анатоль Шафаловіч**, рабочы:
— Я вельмі здзівіўся, нават крыху спалохаўся. На пешаходаў заўсёды наязджаю і, напэўна, будуць. Але ж патрэбна нешта рабіць, вось хоць і падобныя акцыі праводзіць.

Праз гадзіну юныя інспектары з СШ №6 пайшлі дадому. І, як раней, нехта з пешаходаў даходзіў да сярэдзіны дарогі і чакаў, пакуль перад носам праедзе грузавік, а бабулька прасіла хлопца, каб дапамог перайсці.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### «Стоп-мэны» у Беларусі

**Упершыню ў Беларусі аперацыю "Стоп-мэны" (ад англ. "stop man" – стой чалавек) правяла ДАІ Салігорскага ГРАУС у 2001 годзе. У гадзіны пік дзіцячага руху (з 7-30 да 8-00 і з 18-30 да 19-00) настаўнік бяспекі асабістага жыцця з юнымі інспектарамі руху і інспектарамі ДАІ рэгулявалі рух машын. Дзеці знакам "Stop" (рух без спынення забаронены) паказвалі вадзіцелю, што праз дарогу пераходзяць пешаходы.
Пасля гэтага эксперыменту Салігорскае ГРАУС сумесна з аддзелам адукацыі ўстанавіла дзяжурства на пяці пераходах каля школ. Так дзіўныя "стоп-мэны" ператварыліся ў жыццёвую неабходнасць.**

# Ванэса Дзіркс з Канараў вучыцца ў Чысці

**МАЛАДЗЕЧНА. У Чысць прыехалі немка Ісі Дзіркс з дачкой Ванэсай, якія жывуць на іспанскім востраве Тэнерыфе. Мэта – падцягнуць веды Ванэсы ў англійскій мове.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ

**Госці з Канарскіх астравоў Ісі Дзіркс з дачкой Ванэсай дома ў настаўніцы англійскай мовы Алены Дзевятавай з Чысці.**

Першы раз Ісі трапіла ў Чысць у пачатку 90-х гадоў разам з мужам **Хайнерам**. Тады ён узначальваў германска-турэцкую кампанію "Клёклен", якая будавала тут заводы чарапіцы, вапны і сумесяў. Яна працавала ў сакратарыяце гэтай кампаніі. Спачатку вельмі хвалявалася, што дачцэ будзе цяжка з мовай. Але ж праз два з паловай гады Ванэса пайшла ў школу. За гэты час яна навучылася нядрэнна размаўляць па-руску. Дапамаглі гульні ў двары разам з дзецьмі і добрыя настаўнікі. Маці Ванесы лічыць, што беларуская адукацыя якасней за іспанскую.

— У вас ёсць дысцыпліна ў класе, і настаўнік не паўтарае адно і тое ж па тры разы. Падручнікі таксама лепшыя. Таму няхай Ванэса ходзіць на заняткі ў Чысцінскую школу, дзе за 2 месяцы шмат чаму навучыцца, - гаворыць Ісі.

Сёлета 50-гадовая Ісі і яе 60-гадовы муж жывуць у невялічкім доме, побач з якім вырошчваюць сад. Яны пераехалі ў Тэнерыфе з-за таго, што там лепшы клімат, і пакуль не збіраюцца вяртацца ў Германію. Людзі жывуць там бедна. Сярэдні заробак – 500 еўра. Кілаграм мяса каштуе 4 еўра, хлеб і малако – 0,5 еўра. Самая распаўсюджаная страва – бульба, вараная ў акіянскай солі, і рыба.

На востраве сустракаецца шмат рускамоўных, якія трымаюць свае рэстараны і кафэ. Яны актыўна скупляюць кватэры і дамы.

Сям'я Дзіркс любіць вандраваць. Яны былі ў Польшчы, Іраку, Паўднёвай Еўропе. Але найбольш зацікавілі Паўднёвая Аравія і Аўстралія. У першай – цікавыя і незразумелыя для іх звычкі. Нават аўтобус падзелены на дзве часткі: для мужчын і жанчын. А Аўстралія ўразіла сваёй багатай і прыгожай прыродай.

— Вельмі люблю Беларусь. Прыгожыя месцы, добрыя сябры і ўспаміны. Ванэса заўсёды гаварыла, што самы цудоўны час для яе – вучоба ў гэтай школе, разам з любімымі настаўніцамі **Ірынай Бубен і Аленай Дзевятавай**, — зазначае Ісі.

Сама Ванэса ўжо сустрэлася з былымі сяброўкамі і адзначыла, што яны больш самастойныя і гавораць, як дарослыя. Яна ж марыць стаць актрысай. Удзельнічае ва ўсіх мясцовых фестывалях і карнавалах, дзе паказвае моднае адзенне ці розныя пантаміны.

Раніцай 27 сакавіка Ісі паляцела ў Тэнерыфе, дзе разам з мужам будзе чакаць дачку, якая вернецца праз 2 месяцы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

P. S. Дзякуй настаўніцы англійскай мовы Чысцінскай СШ Алене Дзевятавай, якая дапамагала весці размову.

# У «Лілеі» юбілей

**ВІЛЕЙКА. Вілейскай скаўцка-вучнёўскай газеце "Лілея" спаўняецца пяць год. Першыя пяць нумароў газеты былі насценныя. У іх стварэнні ўдзельнічала каля пяці чалавек. Ці нездарма такія супадзенні?**





Фота з архіва "Лілеі".

**Галоўны рэдактар Вілейскай скаўцка-маладзёжнай газеты "Лілея" Віталь Паўлоўскі. Нарадзіўся ў вёсцы Заброддзе Вілейскага раёна ў сям'і старшыні калгаса і настаўніцы. У дзяцінстве марыў стаць лётчыкам. Пра кар'еру журналіста нават і не думаў, бо ненавідзеў пісаць сачыненні, гэта былі для яго пакуты. Скончыў факультэт радыёфізікі і электронікі БДУ.**

Калі "Беларускі Фонд Сораса" выдзеліў абсталяванне, з'явілася магчымасць выпускаць тыражную газету. Не рэдактарам стаў **Віталь Паўлоўскі**.

**— Чаму вас пацягнула ў журналістыку?**

— Жаданне ўплываць на свядомасць людзей. Вядома, гэта магчыма рабіць і сам-насам, але гэта было б вельмі вузка. А праз газету можна прапагандаваць пэўную сістэму каштоўнасцяў.

**— Чыя ідэя стварэння газеты?**

— Я не скажу, што гэтая ідэя прыйшла менавіта мне ў галаву. Нават не магу сказаць, каму імення. Проста неяк вырашылі, і ўсё.

**— А чаму "Лілея", можа, гэта вашае любімае імя?**

— Не. Спачатку газета была проста скаўцкая. А лілея — гэта сімвал арганізацыі. Крыху шкадую, што далі такую назву, бо цяпер ў газеце мала асвятляюцца справы скаўтаў, у асноўным, — увогуле праблемы моладзі. Але з іншага боку гэта добра, бо такая назва прымушае нават рускамоўных людзей гаварыць "Лілея", і ніхто не скажа "Лилия".

**— Напэўна, існуюць нейкія цяжкасці. Якія з іх самыя сур'ёзныя?**

— Адна з галоўных цяжкасцяў — склад рэдакцыі. Гэта, у асноўным, вучні. У нас, увогуле, усе аматары, няма ніводнага прафесіянальнага журналіста, у лепшым выпадку, філолагі. Дзецям трэба вучыцца, а мае двухтыднёвыя семінары па журналістыцы даюць не шмат. Яшчэ адна праблема — колькасць людзей. На сённяшні дзень у рэдакцыі актыўна працуе семнаццаць чалавек. Першым пытаннем на бліжэйшы час, якое мы збіраемся вырашаць, будзе рэарганізацыя работы. Калі ў невялічкім пакоі збіраюцца ўсе, атрымліваецца не вельмі добра. Мы, напэўна, будзем размяркоўваць па аддзяленнях.

**— Як вы думаеце, вы пачынальнікі руху мясцовых маладзёжных газет ці будзеце першыя і адзіныя ў Вілейцы?**

— На бліжэйшы час, думаю, адзіныя. Нядаўна БПСМ збіраўся рабіць газету. Яны актыўна рыхтаваліся да яе выпуску. Ім паабяцалі фінансаванне. Але справа праваліляся. Лічу, што каб не было "Лілеі", не было б нават і думкі пра стварэнне іншай газеты. Аднак я буду рады, калі ў нас з'явіцца канкурэнт.

**— З-за таго, што "Лілея" не зарэгістраваная, яна не можа мець наклад, большы за 299 асобнікаў. Па ўласным вопыце ведаю, што часта "Лілеі" многім чытачам не хапае. Ці не збіраецеся зарэгістраваць газету і гэтым павялічыць яе наклад?**

— Збіраемся. Ужо летам, напэўна, будзем падаваць дакументы.

Юбілей газета яшчэ не спраўляла. Святкаванне адбудзецца ў сваім коле. Пачакаюць добрага надвор'я, выйдуць на свежае паветра. Будзе вогнішча, гітара, спевы.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ**

## Даспяваўся

**ВІЛЕЙКА. Сяргей Шкурдзе** з Вілейскага раённага Дома культуры трапіў на фінальны тур рэспубліканскага конкурсу беларускай народнай песні "Галасы Радзімы". Конкурс адбудзецца з 29 па 31 сакавіка ў Мінску.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Кветкі Касцюшку

**СМАРГОНЬ. Да нядаўняга часу мясцовыя маладажоны ўскладалі кветкі да Пераправы – помніка, які пастаўлены ў гонар Другой Сусветнай вайны.**

Але смаргонскі хлопец **Юрый Рурак** і яго нарачоная **Наталля** вырашылі гэтую традыцыю змяніць і ўсклалі шлюбныя кветкі да памятнага камення ў Залессі. Гэты камень устанавіў аўтар паланеза "Развітанне з Радзімай" Міхал Агінскі ў гонар сустрэчы з кіраўніком нацыянальна-вызвалечага руху канца XVIII стагоддзя Тадэвушам Касцюшкам.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

## Міжрэгіянальны конкурс

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 сакавіка ў музычным вучылішчы прайшоў чацверты міжрэгіянальны конкурс баяністаў і акардэаністаў.**

Удзельнічалі вучні сярэдніх і старэйшых класаў музычных школ і школ мастацтваў. У двух узроставых групах выступалі музыканты з Маладзечна, Вілейкі, Валожына, Мядзела, Смаргоні і яшчэ дзевяці раёнаў Беларусі. Кожны выконваў па 4 рознапланавыя творы. Сярод баяністаў у старэйшай групе дыплом першай ступені не прысуджалі. Дыплом другой ступені атрымалі **Аляксей Каўшароў** са Стоўбцаў і **Кацярына Сянкевіч** з Жодзіна. Дыплом трэцяй ступені – **Ігар Зінько** (Стоўбцы).

Смаргонец **Андрэй Куліш** перамог у малодшай групе, дыплом другой ступені ў **Рыгора Хвісевіча** з Пухавіцкага раёна, трэцяй ступені – у жодзінцаў **Максіма Фралова** і **Паўла Самстыкі**. Прыз надзеі атрымала валожынка **Насця Голуб**.

Акардэаніста **Марата Лагутку** са Стоўбцаў журы прызнала на галаву мацнейшым у старэйшай групе. Другую ступень не прысуджалі. Трэцяя – у **Сяргея Паплёўкі** з Маладзечна і **Таццяны Чарапок** з Жодзіна. Яе зямляк **Максім Дорагаў** атрымаў дыплом першай ступені ў малодшай групе. У **Алены Грыб** з Барысаўскага раёна і **Мікіты Рэута** са Слуцка – дыплом другой ступені. **Аляксандр Невярдасаў** з Барысава атрымаў дыплом трэцяй ступені.

Сёлета прадстаўнікі нашага рэгіёна зрабілі крок назад – колькасць тых, хто атрымаў дыпломы, рэкордна нізкая.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Загінуў пасажыр

**МАЛАДЗЕЧНА. 23 сакавіка на аўтадарозе Плябань – Алёхнавічы 31-гадовы вадзіцель машыны ВАЗ-21063 з'ехаў у кювет і перакуліўся.**

У выніку пасажыр атрымаў цялесныя пашкоджанні і памёр па дарозе ў бальніцу. Вадзіцель моцна не пацярпеў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на красавік



**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 3 серада 10-00, 13-00 | **"Чарадзействы ў краіне Оз"** (казка-канцэрт) Галіна Булыка |
| 18 чацвер 12-00 | **"Добры змей"** (лясная казка) Аляксей Якімовіч |
| 26 пятніца 10-00 | **"Буслік супраць Кадука"** (музычная казка-трылер) Георгій Марчук |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 14 нядзеля 17-00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| 16 аўторак 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| 17 серада 19-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| 18 чацвер 19-00 | **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 19 пятніца 10-00 | Закрыццё тэатральнага фестывалю **"Малая сакавіца"** |
| 20 субота 17-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| 23 аўторак 19-00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама |
| 24 серада 19-00 | **"Кім"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 25 чацвер 19-00 | **"Вавілон"** (фантасмагарычная камедыя) Аляксей Дудараў |

Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Мацкевіч

Маладзечна, вул. Чкалава, 7 Тэл. каса 52417, гал. адміністратар 61732

## Мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка»

### Рэпертуар на сакавік-красавік 2002 года



| | |
|---|---|
| 30.03 | В. Швэмбергер **"Маша і Мядзведзь"** |
| 31.03 | І. Сідарук **"Меч Анёла"** |
| 6.04 | В. Мятальнікаў **"Спячая прыгажуня"** |
| 7.04 | П. Васючэнка **"Новы Калабок"** |
| 13.04 | В. Карастылёў **"Доктар Айбаліт"** |
| 14.04 | Х. Гюнтэр **"Насарог і Жырафа"** |
| 20.04 | Я. Сперанскі **"Незвычайныя спаборніцтвы"** |
| 21.04 | П. Васючэнка **"Страшнік Гам"** |
| 27.04 | С. Кавалёў **"Пііпка-сынок"** |
| 28.04 | Р. Осцер **"Прывітанне для Мартышкі"** |

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5 "В". **Пачатак спектакляў у 12-00.** Кошт білета 700 рублёў. Даведкі па тэл. 53673, 68427. Каса працуе з 10-00.

■ **ТЭАТР**

# Марыў быць каскадзёрам, а стаў акцёрам драмтэатра

**МАЛАДЗЕЧНА. 22 сакавіка ў Цэнтры пазашкольнай работы прайшла сустрэча акцёра Мінскага абласнога драматычнага тэатра Андрэя Барткевіча з юнымі гледачамі.**

Падлеткі, што прыйшлі на сустрэчу, падрыхтавалі пытанні на розныя тэмы. Некаторыя былі дастаткова нечаканыя і складаныя.

Юнакі і дзяўчаты даведаліся пра тое, што цяперашні прафесійны акцёр Андрэй Барткевіч іграў яшчэ ў школьныя гады Караля ў спектаклі "Папялушка", а таксама марыў стаць каскадзёрам. Цяпер, акрамя работ у МАДТ, здымаецца ў папулярных серыялах "Каменская-2", "У законе", рэкламных роліках. Сярод любімых пісьменнікаў, драматургаў, паэтаў прагучалі прозвішчы Хемінгуэя, Рэмарка, Шэкспіра, Пушкіна. На пытанне, што ён умее рабіць, акрамя ігры на сцэне, Андрэй адказаў:

— Пісаць вершы, сцэнарыі, рабіць спектаклі, забіваць цвікі ў сцяну.

Сапраўды, некалькі год таму А. Барткевічам былі пастаўленыя п'есы "Прымакі" Я. Купалы, "Гусяня Дарафей" Н. Гернета. А ролю Вожыка ў апошнім з названых спектакляў акцёр жартам назваў лепшай.

Цікавай і карыснай была сустрэча для дзяўчат і хлопцаў, якія мараць стаць акцёрамі (а такіх было некалькі), бо ім параілі, як выбраць рэпертуар і чаму трэба навучыцца перад паступленнем.

Напрыканцы сустрэчы Андрэй Барткевіч праспяваў некалькі песень, якія, дарэчы, напісаў сам.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ **ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ**

## Маша і Мядзведзь

У падарожжа па лялечных прасторах вас павядуць героі добра знаёмай казкі "Маша і мядзведзь". Яны дапамогуць зразумець, што галоўнае ў жыцці – гэта мець вернага і надзейнага сябра. Нават калі ты мядзведзь.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

# Дзе купіць «беларускамоўных» яблыкаў?

**МАЛАДЗЕЧНА. На прадуктовым рынку толькі ў адным месцы, у палатцы Таццяны Канабраткінай, усе цэннікі на беларускай мове. Ды і сама жанчына размаўляе толькі на гэтай мове.**

**— Чаму вы пішаце і размаўляеце на беларускай мове?**

— Таму што жыву ў Беларусі, нарадзілася тут, хадзіла ў школу ў Нясвіжскім раёне. Усе кнігі былі на беларускай мове, настаўнікі размаўлялі толькі так.

**— Што вы гэтым хочаце паказаць, даказаць?**

— Я хацела б, каб усе размаўлялі па-беларуску. Наша мова такая мілагучная, думаю, самая прыгожая з усіх славянскіх моў. Хочацца, каб усе ўспомнілі нашу Бацькаўшчыну.

**— Якая рэакцыя ў пакупнікоў?**

— Вы ведаеце, праходзяць міма, потым вяртаюцца і кажуць: "Дайце нам "беларускамоўных" яблыкаў." Гатунак такі прыдумалі. Ну, мне, зразумела, радасна. Тыя, што падыходзяць, таксама спрабуюць размаўляць на беларускай мове. Падзяку выказваюць. Абураецца толькі хам'ё, а нашыя нармальныя людзі толькі радуюцца.

**— Ці адбываліся якія-небудзь кур'ёзы?**

— Бывала, што пыталіся: "А чаму разынкі? Гэта што, сорт такі?"



Фота Яўгеніі МАНЦЭВІЧ.

**Маладзечна, харчовы рынак, 26 сакавіка. У палатцы Таццяны Канабраткінай на ўсіх цэнніках надпісы зробленыя па-беларуску.**

**— Вы заўсёды любілі беларускую мову?**

— Заўсёды. У дзяцінстве нават пісала вершы, прозу, і ўсё на роднай мове.

**— У паўсядзённым жыцці на якой мове вы размаўляеце?**

— Толькі па-беларуску, больш ніякай мовы не выкарыстоўваю. З унукам калі-нікалі размаўляю на нямецкай.

**— Як ставіцеся да рускай мовы?**

— Як да замежнай.

**— Што хочаце пажадаць пакупнікам?**

— Па-першае, хочацца, каб часцей хадзілі на рынак, каб куплялі нашую прадукцыю. Па-другое, каб было больш грошай. Хочацца, каб нашыя грамадзяне як пацягнуліся да рэлігіі, так і прыхінуліся да роднай мовы. Ну, і каб людзі часцей усміхаліся адно аднаму, радаваліся і былі здаровыя.

На гэтым нашая размова скончылася. Спадзяюся, што, калі наступны раз буду хадзіць па рынку, то "беларускамоўных" яблыкаў будзе больш.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ**

## Курсы валют НБ РБ

| | 21 сакавіка | 28 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1695,00 руб. | **1703,00** руб. |
| ЕЎРА | 1490,16 руб. | **1491,56** руб. |
| Злоты | 411,61 руб. | **413,80** руб. |
| Літ | 431,62 руб. | **431,93** руб. |
| Расійскі рубель | 54,44 руб. | **54,73** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1680 – 1700 руб. | **1730 – 1750** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 20.03 | 27.03 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 9400 | **8500** |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | **4300** |
| Селядзец, 1 кг | 2300 | **2200** |
| Рыс, 1 кг | 650 | **650** |
| Грэчка, 1 кг | 560 | **560** |
| Цукар, 1 кг | 730 | **730** |
| Алей, 1 л | 1500 | **1500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | **800** |
| Маянэз, 200 г | 370 | **370** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | **1900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 650 | **650** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 400 | **300** |
| Капуста, 1 кг | 800 | **700** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1600** |
| Апельсіны, 1 кг | 1650 | **1600** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1400 | **1500** |
| Масла, 1 кг | 3400 | **3400** |
| Тварог, 1 кг | 1200 | **1500** |
| Малако, 1,5 л | 500 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | **1300** |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 700 | **650** |
| Яблыкі, 1 кг | 550 | **500** |

■ СПАЖЫВЕЦКІЯ КЛОПАТЫ

## Новы закон для спажыўцоў

**МАЛАДЗЕЧНА. 9 ліпеня ўступіць у сілу новы закон аб абароне правоў спажыўцоў. Старшыня маладзечанскай арганізацыі абароны спажыўцоў Уладзімір Клешч расказаў пра новаўвядзенні.**

Бадай, самае галоўнае для спажыўцоў – тое, што ў спажывецкія арганізацыі можна будзе звяртацца па дапамогу, нават калі ў вас няма пры сабе таварнага чэка. У мінулай рэдакцыі закона гэта не дапускалася. Амаль кожны прыём ны дзень былі выпадкі, калі жыхары горада прыходзілі з просьбай вярнуць грошы за няякасны тавар, які купілі на адным з маладзечанскіх рынкаў. Але ў іх не было чэка. Гаварылі, што прадаўцы адмаўляліся яго выдаваць. І спажыўцы трацілі надзею. Цяпер, калі вы ўпэўненыя, што можаце даказаць факт куплі з дапамогай сведкаў ці іншымі спосабамі, вашу просьбу разгледзяць.

Артыкул 5 новага закона абавязвае прадаўца (такой фармуліроўкі ў дзеючым законе няма) выдаваць касавы чэк або іншы дакумент пры продажы спажыўцу тавару ці аказанні паслугі. Тыя прадаўцы, якія не выдаюць чэк, парушаюць Грамадзянскі кодэкс і правілы рознічнага гандлю. Адміністрацыя гарадскіх рынкаў мае права пазбавіць прадпрымальнікаў гандлёвага месца за тое, што яны не выдаюць чэк.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЫНАК ХАРЧАВАННЯ

## Маскву не накормім

**Як паведамляе радыё "Рацыя", Масква не хоча купляць беларускіх прадуктаў.**

Нягледзячы на шматгадовае пагадненне, падпісанае 5 гадоў таму, аб развіцці эканамічных стасункаў, паводле якога беларусы меліся пастаўляць на расійскі рынак прадукты харчавання і тавары народнага спажывання, безвынікова скончыліся апошнія перамовы аб цэнтралізаваным экспарце ў Маскву беларускага харчавання. Перамовы вялі прадстаўнікі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі і дэлегацыя ўрада Масквы.

У канцы мінулага года, падчас візіту ў Маскву міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Міхаіла Русага**, прынялі папярэдняе рашэнне, што Беларусь завязе ў расійскую сталіцу ў 2002 годзе 17,5 тыс. тон мяса, 6 тыс. тон масла, 5 тыс. тон сухога малака, 12 млн. умоўных бляшанак малочных кансерваў, 4 тыс. тон цвёрдых сыроў, 10 тыс. тон бульбы, 5 тыс. тон агародніны, 30 тыс. тон солі. У часе візіту расіян у Мінск бакі меліся пацвердзіць намер падпісаць кантракт на суму 50-60 мільёнаў долараў.

Аднак прадстаўнікі маскоўскага ўрада адмовіліся падпісаць пагадненне і растлумачылі гэта тым, што ім патрэбны час на роздум. Хутчэй за ўсё, масквічы засталіся незадаволеныя беларускімі цэнамі. За апошні год у Беларусі цэны на харчовыя тавары імкліва раслі. Цяпер яны вышэйшыя за расійскія.

Здарылася тое, што павінна было здарыцца. Усе добра памятаюць, як некалі «чаўнакі» няблага зараблялі на тым, што вазілі беларускія прадукты за расійскую мяжу. Кіраўніцтва Беларусі было тады заклапочанае гэтым вывазам і рабіла розныя захады, каб яго не дапускаць. Цяпер сітуацыя змянілася на процілеглую. Расіяне здолелі забяспечыць свой рынак таннейшымі за беларускія прадуктамі.



Фота IREX/ProMedia.

**Голаду не будзе. Але і Маскву не накорміш. Колькі ні пнія.**

Беларусы тым часам зноў збіраюцца сёлета араць ды сеяць з яшчэ большымі, чым у мінулыя гады, выдаткамі. З пункту гледжання гарантавання харчовай бяспекі ў краіне – справа марная. Каб работнікі аграпрамысловага комплексу краіны не закопвалі грошай у зямлю, на іх можна было б проста купіць прадукты там, дзе яны каштуюць значна танней, чым у нас. А цяпер і ў той жа самай Расіі. Пра тое, што голаду ў Беларусі не будзе, калі калгаснікі нават нічога ні садзіць, ні збіраць не будуць, гаварыў яшчэ напачатку года былы міністар сельскай гаспадаркі **Васіль Лявонаў**.

– Тут няма ніякага страху, хлеб прывязуць з Расіі. Сёння расійскі хлеб у два разы таннейшы за беларускі. Ніякага страху няма. Прадуктаў харчавання хопіць, з усходу іх прывязуць колькі хочаш.

Апрача таго, па ўсёй краіне неўзабаве пачне корпацца на сваіх градах тутэйшы люд. У краіне цяпер амаль 2 мільёны ўладальнікаў зямлі, якія выкарыстоўваюць яе ў якасці дапаможнай гаспадаркі. Яшчэ пад 700 тысяч грамадзян маюць дачныя ўчасткі. Праблему з харчаваннем кожны будзе вырашаць саматугам і коштам надзвычайных высілкаў. Але павінна быць інакш.

У людзей павінна быць свабода выбару. Работнік павінен сам вырашаць, што яму рабіць з зямлёй.

Да тае пары, пакуль не будзе свабоды, беларусы будуць самі спажываць свае прадукты харчавання, якія для замежных спажыўцоў маюць надта высокія цэны.

**Паводле радыё «Рацыя».**

■ ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Радзівону знайшлі абутак

**МАЛАДЗЕЧНА. У №4 ад 25 студзеня 2002 года мы пісалі пра Радзівона Карповіча, у якога з-за 50 размеру нагі цяжкасці з абуткам. Яны з маці шукалі па ўсіх магазінах Мінска і Маладзечна, але ж зімовага абутку не знайшлі.**

І вось, нарэшце, дачакаліся. У мінулую суботу знаёмая прывезла з Германіі боты 51-га размеру. Вось што яна расказала:

– Я зрабіла спецыяльны заказ у горадзе Таўрынф, дзе ёсць магазін вялікага абутку. Там можна знайсці размеры ад 46 да 60. Для Радзівона абутак прыйшоў з Іспаніі і каштуе ён 170 еўра.

Цяпер Радзівона не палохае будучая зіма – ёсць у чым хадзіць. Галоўнае, каб за лета нага не падрасла.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Памыліліся з тэрыторыяй

**У мінулым нумары ў матэрыяле "Уваліліся ў бітум" з-за недакладнасці ў афіцыйных зводках з'явілася памылка і на газетнай старонцы. Гаворка ішла пра тое, як 20 сакавіка двое мужчын ўваліліся ў бітум на тэрыторыі асфальтавабетоннага завода. Няправільна ўказалі прыналежнасць завода.**

Як нам сказалі ў раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях, памылка ўзнікла з-за таго, што лужына з бітумам была амаль на мяжы двух ДРБУ. Вартаўнік, які паведаміў пра здарэнне, назваў не той нумар ДРБУ. У міліцэйскіх дакументах так і запісалі. Дакладна высветлілі, што гэта памылка, толькі 25 сакавіка. На самой справе выпадак быў на тэрыторыі ДРБУ-13.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Нічыйныя дэталі

**АСТРАВЕЦ. У пункце памежнага кантролю "Гудагай-1 у адным з вагонаў памежнікі знайшлі дэталі да аўтамабіляў.**

Яны былі схаваныя ў міжстолевай прасторы вагона. Гаспадара, як звычайна гэта бывае, не знайшлі, таму дэталі перадалі ў Ашмянскую мытню.

Па папярэдніх падліках, іх кошт ацэнены ў 516 тысяч рублёў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Чачэнцы ў Гудагаі

**АСТРАВЕЦ. Толькі за апошні тыдзень у пункце памежнага кантролю "Гудагай-1" былі затрыманыя чатыры парушальнікі мяжы.**

Па падробленых дакументах у Літву спрабавалі трапіць два армяніны і два чачэнцы.

Памежнікі аказаліся пільныя, і цяпер з затрыманымі праводзіцца разбор.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

